# ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

**Цэна асобнага № 15 кап.**

**Умовы падпіскі на 1917 год.**

| За 1 м. | За 2 м. | За 3 м. | За 4 м. | За 5 м. | За 6 м. | За 7 м. | За 8 м. | За 9 м. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 р. | 2 р. | 3 р | 4 р. | 5 р. | 6 р. | 7 р. | 8 р. | 9 р. |

Падпіска прымаяцца толькі с 1-го чысла кожнага месяца.

Перамена адрэсу—50 коп. Пры зьмені адрэса конча прыкладаць стары адрэс.

Рукапісы павінны быць чытэльна напісавы і толькі з аднаго боку папяры. Кепска перапісаныя рукапісы ні чытацца, ні друкавацца ня будуць.

На ліставання, перасылку рукапісау і іншыя адказы-павінны прыкладацца маркі.

**Газэта палітычная, эканамічная і літэратурная.**

**Год выданьня I.**

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Мінск, Захараук. 18

**Умовы друку абвестак:**

(На IV боку газэты) за 1 радок шпальту 40 к. за 2 рад. 80 к. за кожны раз.

Асобам, шукаючым працы — 1 руб. за 3 радкі за адзін раз.

**№ 12. 1917 г. Аутарак. Выходзіць двойчы на тыдзень. 8 жніуня 1917 г. № 12.**


# 400-ЛЕЦЬЦЯ
## 6 жніуня 1517 — 6 жніуня 1917 г.
# БЕЛАРУСКАГО ДРУКУ.

## Наша культурнае сьвята.

Чатырыста год назад, 6-й, як гадаюць вучоныя, лічбы месяца жніўня (августа), начала выходзіць у сьвет беларуская Біблія, надрукованая і перакладзеная стараннем і працаю Францыска Скарыны на тагочасную літэратурную беларускую мову «ку лепшаму, як ён пісаў, выразуменію люду паспалітага», «людзям простым паспалітым на карысьць і размноженіе добрых звычаяў». Чатырыста год назад Францыск, або Георгі, Скарына, вялікі нізабутны муж «із слаўнага граду Полацку», дасьледам свайго розуму і навукі дасьведчыўся, што толькі праз жывую родную мову, праз навучэнне ў ёй можна вывесьці людзей на шлях культуры, асьветы і добрабыту. I ўсё сваё жыцьце, свой талянт, навуку і здольнасьць аддаў вялікай працы па карысьць і на спажытак свайму народу.

У тыя далёкія часы, сярод славянскіх народаў, адтрымаўшых веру грэцкага звычаю, панавала у кнігах і ў навучэньні мёртвая малозразумелая царкоўна-славянская мова. На ёй адбывалася набажэнства, вучылі у школках, пісалі акты, летапісы і вялі пісьмаводства ва ўсіх інстытуцыях таго часу. Ніжыцьцёвая, а праз тое нізграбная, подчас нізразумела і ні дасэнсу ужываная,—яна ні магла спрыяць навучэнню, бо сушыла розум, нішчыла думкі, адбівала ахвоту да кніг і да навукі. Трэ' было мець асаблівую цікавасьць і надзвычайнуюздольнасьць, каб перамагчы труднашчы кніжнага славянізму. Тым-та й бачым мы, што толькі манахі, ахвяраваўшы жыцьцё сваё на службу Богу, ускладалі на сябе як ахвяру, як цяжкі крыж, працу пісання кніг на ц.-славянскай мові. I калі хто у тыя часы ні толькі чытаў, але й умеў яшчэ перапісваць кнігі, дык ён лічыўся чалавекам надзвычайнага розуму.

Чуючы і бачучы скрозь у пісьменстві адну ц.-славянскую мову, людзям таго часу трудна было уразумець, ні то што адважыцца пісаць і вучыцца пасвоему. Гэтак цяпер, стыкаючыся у школах, цэркві і розных інстытуцыях с пануючай скрозь вялікарускай мовай,—малаасьвечным людзям трудна агоўтацца с тым, што можна пісаць, чытаць і вучыцца па-беларуску, як і па-французску. Трэ' было зьявіцца чалавеку з вялікім талянтам, навукай і асьветаю і цьвердаю воляй, каб наважыцца пераварнуць старасьвецкі уклад на добры бок ды паставіць яго на ўласны грунт. Трэ' было глыбока праканацца ў тым, што родны грунт—ядыная і справядлівая дарога да асьветы і гістарычнай паступовасьці (прагрэсу), каб пайсьці проці вяковага быту, проці забабонаў і векамі умацаванага пагляду і консэрватызму.

Такім чалавекам на Беларусі чатырыста год назад быў Францыск Скарына. Жывучы доўга заграніцай, дзе ён вучыўся у вышэйшых навучных інстытуцыях З.-Эўропы, яму ні раз успадала на думку параўнаванне культурнага становішча свайго народу з жыцьцём людзей заграніцай. Закаханы у сваю далёкую айчыну, вітаючы ў думках у сваём слаўным городзі Полацку, ён бачыў, нябога, як далёка стаяць ззаду ад тутэйшых людзей нават вышэйшыя станы роднага грамадзянства. Тым часам, і ў З.-Эўропі ні шмат даўно, як кінулі латынь па школах, зьвярнуўшы увагу на родную мову, на гэты жыцьцёвы эліксір, на нісмяртэльную крыніцу развіцця, культуры і прагрэсу. Напэўна, яшчэ і тагды ні раз загараліся спрэчкі аб латыні, аб тым, што толькі яна, а ні які іншы язык, здацян і здолян да навукі, што толькі па-латыні ёсьць вялікія творы краснаго і філёзопскаго пісьменства. Чуў тыя спорні Скарына, як мы чуем ціпер лямэнты прыхільнікаў маскоўскае, або польскае культуры. Але лепшыя людзі таго часу разумелі шкоду латыні, а, па лепшы выпадак, бязскутачнасьць і сьмярцьвешчыну латынскай вучобы, і ўсе свае сілы пакладалі на тое, каб запанавала ў навучэнні родная мова. Разумеў гэта і Скарына, прычыняючыся да вялікае працы перакладання Біблii з мёртваго ц.-славянскаго языка на жывую і гучную родную мову. I сваёй працай ён утварыў эпоху у культурным жыцьці нашага народу. I мы бачым, што с таго часу прасьвета на Беларусі пайшла шпаркім крокам уперад. Чытаючы кнігі да набажэнства у своёй роднай, простай мові, продкам нашым нітрудна было дасьведчыцца, што тым больш можна вучыцца, пісаць і тварыць літэратуру па-своему. I пачалі адчыняцца школы, зьявілася літэратура, начала расьці і шырыцца прасьвета. Жыцьцё зацьвіло і загамашіла. Толькі цяжкія умовы гістрычнае долі запынілі культурны поступ нашаго народу.

Сьвяткуючы дзень вялікага сьвята беларускай культуры, мы павінны аддаць усе свае сілы, розум і працу па тое, каб найхутчэй запанавала у нашам краі наша гучная, пекная, родная мова; каб завітала да нас уладарнай гаспадыняю, стаўшы магутным чыннікам культурнаго развіцця нашаго народу. Памятайма, што толькі шануючы самога сябе, сваю славу і нацыанальны гонар, толькі стоючы на грунці роднай культуры мы адтрымаем магчымасьць стаць поплеч с асьвечнымі народамі З.-Эўропы. А «въ сей день, его же сотвори Господь, возрадуемся и возвеселимся въ онь!».

Я. Л-к.

## Доктар Францыск Скарына.

*[6 жніуня 1517 г.—6 жніуня 1917 г.]*

> Люди где зродилися и ускормлены суць па Бозе, к тому месту вялику ласку ямают
>
> *Скарына*

У канцы пятнадцатаго веку [прыкладом каля 1490 г.] у Полацку, «слаўным градзе Полацку», у заможных купцоў Полацкіх Скарын, у шчасьлівую дзеля Беларусі часіну, арадзіўся сын, што, даросшы, праславіўся далёка па-замежжу Русі—Літвы.

Гісторыя ні захавала аб ём напэўных вестак, калі нарадзіўся, калі памёр, як зваліся яго бацькі, як здолеў дастаць вялікай асьветы і—што вайглаўней і найцікавей—гісторыя ні захавала, а вучоные людзі дагэтуль ні дайшлі, якой вераю верыў ён—праваслаўнай ці каталіцкай?

Уважаючы на тое, што у тые часы каталіцтва на Беларусі было зусім мала пашырэна, асабліва ж сярод людзей сяраднягa, таргоВага стану, а так сама і на тое, што сьвятыя кнігі ён выкладаў дзеля лепшаго разуменьня народу поспалітага Русі-Літвы, а народ гэты быў праваслаўны, і што выкладаў кнігі мовaю таго ж народу без аніякаго кірунку да чаго польска-каталіцкаго, то выходзе прызнаць, што і сам ён быў праваслаўны.

Уважаючы ж на яго уласные словы аб сабе: Скарынін сын Францыска [імя каталіцкае], трэба прызнаць яго за каталіка.

Праўда, па акту ужо шэснадцатага веку завецца ён яшчэ і Георгій Скарына, але наагул-то гісторыя гаворыць аб ём, як аб Францішку.

Пытаньне аб двайных імёнах у пашым велікім княжэстві да уніі ніхто ні растлумачыў, а тым часам знаемо, што ведомы князь Астрожскі Константы у прадмові да Астрожскай Біблii пішэцца «у крэшчэньню Васілій» і яшчэ знаемо, што князь Богуш быў па актах «во сьвятомъ крещеньню Евфімій».

Дык во, тым цікавей і глаўней, што у гісторыі нашай, якая поўна войстрага, часам дужа шкоднага краю, змаганьня вер—праваслаўнай, каталіцкай, уніяцкай арыанскай, лютэрскай, кальвінскай— у гэтай гісторыі ёсьціка вялікі чалавек, вялікі магутны дух, і так вышэйшы за рознае разьюшэнае чэлавецкае важджэньне аб драбязе,—што запісаў у гісторыю ні аб тым, як дзеля тытулоў і прывілеёў перэдаўся у пануючую веру; ні аб тым, як, бароючы самабытнасьць роднага краю, усё жыцьцё вадзіўся з «ворагамі», сваімі ж братамі, што зводзілі на нет Бацькаўшчыну; але запісаў у гісторыю аб тым, як сьветлы і чысты, вышэйшы ад спрэчак аб правай веры і звадак, усё жыцьцё, аднак, працаваў на карысьць роднага люду, тварыў яго культуру, здабываў яму шчасьце і славу.

Пачаткаў граматы Францыск навучыўся, мусі быць, пад бацькавай страхою у Полацку, як сын багатыроў, але як ён патрапіў у Кракоўскі Унівэрсітэт (можа давучыўся у Вільні?), то нет ведама.

З Вільнею у Скарын было шмат зносін па розных справах.

Родны дзядзька Францыска Іван Скарыніч, гандлюючы у Рызі, пазычыў там у Віленскага мешчаніна, нейкага Сокалоўскаго, 22 копы грошы [гэта не мала] і памер, не аддаўшы доўгу.

Насьледаваў гэтаму дзядзьку разам з другімі і Францыск і, відаць, меў праз тое многа ніпрыемнасьці.

Потым ведама, што сын таго Івана, Роман, «служыў у немцох», лічыўся мешчанінам Вільні, хоць меў зямлю ці дом і у Полацку.

Мабыць за такіх спраў, патрапіў у Вільню і хлапец Францыск.

Сваімі выдатнымі здольнасьцямі, добрым гадаваньнем, выхаваньнем і людзкасьцю зьвярнуў на сябе увагу віленскіх магнатаў, а яны і паслалі яго, у Кракоў да Універітэту, каб мець потым у родным месьці і княжэстві вучонага мужа.

Пачаў там вучыцца Скарына хіба с 1504—5 году, маючы, гэта значэ, ня менш 14- -15 гадоў ад роду.

А вучылі там хлапцоў такіх навук: граматыкі, лёгікі, рыторыкі, фізыкі с арытмэтыкай і геомэтрыей, музыкі, зьвездачоту, куды уходзіла астраномія, навука выкладаць календары і вылічаць гароскопы [жыцьцёвую долю].

У ліку баккалаўраў філёлогічнагэ факультэту Кракоўскаго Універсітэту 1506 г. успамінаіцца Fran. de Poloczko, Lipthnaus, а раней у спіску студэн-

таў 1504 г. ёсць там сходнае імя. Кажым, сходнае, бо некалі быў звычай замест фаміліі пісаць з якога мейсца: дык жэ сам Скарына любіў дадаваць да свайго імені, што ён с Полацку, слаўнаго граду Полацку, у лекарскіх науках Доктар.

Агульны напрамак асьветы універсытэцкай таго часу у Кракові быў чыста тэолёгічны. Глаўней за ўсё лічылі спасеньне душы, пасьля ужо сцаленьне цела. Дык во, хто вучыўся у тые часы за доктара, таго прафэссары настаўлялі каб явіўшыся да хворага, доктар першым дзелам казаў бы яму аб пакуці, аб грэхах, аб пеклі і раю і т. д., а потым, адратаваўшы душу, лячыў бы цела.

З гэтага можна бачыць, які там уплыў рабіўся на маладога, талантавітага, а «ускормленнаго суть по Бозе», Скарыну.

Хоць і не дайшло да нас, як і гдзе, а тым часам завяршыў ён сваю вышэйшую асьвету, дастаў пачэснае, важнае званіе: у навуках вызволеных і ў лекарскіх доктар, вучоны муж, і апынуўся аж у чэшскай сталіцы Празе.

І туга-ка яму, поўнаму маладых выдатных сіл, пры гэткай асьвеці, узгадованаму у шчырай любасьці да людзей, з беларускай, пранікнутай духоўнасьцю, душою, жадалося з усей сілы працаваць у навуцы на карысьць людзкую.

І няўжо ж на далёкай чужыні ні лятуцеў ён, ня думаў ён аб родным Полацку з яго ровамі, валамі, вежамі, брамамі і вулкамі, кірмашовым гулам на рынку людзкой таўпы з роднаю крывіцкаю гаворкай, вячэрнім магутна-гучным сьпевам звонаў і спрадвечным плёскам глыбокай, шырокай Дзьвіны з гандлёвымі лаўбамі; няўжо ні лятуцеў ён аб бязьмерных родных абшарах і драмучых пушчах з валатоўкамі, гарадзішчамі, каменямі прырэчнымі, прыдарожнымі—памяткай старадаўшчыны, гдзе тама ды тута жыў родны народ роднаго свайго княжства, народ лагодны, прыемны, але яшчэ цёмны, што ня меў нават па чым вучыцца, па чым маліцца?

З якой радасьцю і ён сам, Скарына, памаліўся б тут, на чужыні, гдзе не пачуеш слова роднага, па кнізі, у роднай мові выложэнай!

І была б такая кніга і ў Полацку у радні, і у Вільні у прыхільнікаў, і па усіх кутках Русі-Літвы, і с тарговым чэлавекам у Рызі, ці Польшчы, ці далёка у Прусах.

Як у тэй дзяўчыны:

... тчэ, забыўшыся, рука
замест пэрсідзкага узора
цьвяток радзімы васілька.
(«Вянок» М. Богдановіча),

так у яго, узгадаванага чужымі вучонымі на чужым грунці, зьяўляецца чыста нацыянальная, свая родная культурная праца.

Глыбока запала яму думка паслужыць роднаму гасударству выкладаньнем кніг. Перш-на-перш кніг для набажэнства. Мусі быць той жа працы чэкалі ад Скарыны і Віленскіе грашавітые ды радавітые людзі, што дбалі аб развіцьці культуры на Русі-Літве і што памаглі некалі грашмі Скарыні.

Цяперака яны памаглі грашмі, *] іншэ й матэрьяламі.

Ираз гэтых мэцэнатаў дастаў Скарына царкоўна-славянскія тэксты Евангелья, Апостола, Пяцікніжжа Мойсея, Псалтыр, кніг Прарокаў, Цароў, Судзьдзяў, Іова, Прытчаў, Еклезіаста.

Знаёмства калішнія з Вільняю тута яму дужа памаглі.

І во, дзеля таго, што не только сами сабе народихомся на свет, но более ко службе Божыей и посполитаго добраго,—як пішэ сам Скарына,—і так само паболей с тое причины, иже мя милостивы Бог с таго языка на свет пустив, доктар Францыск Скарына падняўся проти тое, каб на карысьць свайму прырожоному языку к науце усяго добраго і к лепшаму разуменьню усякім чэлавекам слова Божаго,—падняўся выкладаць сьвятые кнігі у роднай мові і друкаваць іх.

Аз... нарожаны у руском языку,—гаворыць ён у прадмові да кнігі Даніила,—своей братіи Руси...

Шмат жа было працы апроч чыста навучнага труду выкладаньня кніг з розных матэрьялаў, трэба было рабіць каррэктуру (правіць друкаваные чэрнавікі) і пільнаваць за работай друкаршчыкоў, што былі хіба ні з беларусаў, а з якіх пражскіх славяноў ні нат' немцаў і часта перэкручывалі напісанае доктаром.

Добрахотна узваліў ён на свае плечы гэты цїжар, абы толькі пашырыць асьвету свайго гасударства.

Не па заказу рабіў, а на карысьць Бацькаўшчыны.

І тутака яму, праўда, некалі было удавацца у крытыку матэрьялаў, поркацца па жыдоўскіх, грэцкіх, лацінскіх кнігах ды й ні вынікала таго ціхамірная, шчыра хрысьцьянская душа беларуса, і во—здавальняючыся кнігамі царкоўна-славянскімі [тэкстамі], чэшскай Біблией 1506 года і коммэнтарыяміНіколы Лірана—наш доктар, уважаючы на посполітае разуменьне, рабіў выкладаньне; а яшчэ—дбаючы на добры чын роднай мовы, бо ведаў, што дзеткі на Русі-Літве вучыцца грамаці і мові будуць на яго кнігах (псалтыры).

Детем малым—пачаток всякае добрае навуки, грамоты,—еже добре често [чытаць] и мовити вучыть.
(Скарына)

Так зрабілося вялікае дзела.

6 жніўня 1517 году вышла у сьвет Псалтыр беларуская, якой пачыналася выложепая працаю и вытисненая повеленьнем Скарыны першая беларуская друкаваная кпіга Біблія [сьвятые кнігі.]

Гэтак надрукаваў Скарына у Празе:
у 1517 г.—4 кнігі—222 лісты,
1518 г.— 8 кніг —348 лістоў.
1519 — 10 — —524 —

У 1517 г., калі пачаў літэратурную і выдавецкую працу, меў ён, значэ, ня меньш як гадоў 27. Такім, ці троху старэйшым, ён выглядае і на патрэці, дададзеным да кнігі.

У 1519 г. па няведамых прычынах спыняецца яго пражская дзеяльнасьць, і ён переезджае па жыцьцё у Вільню.

Можа быць, жадалася жыць у Бацькаўшчыні, бо тужыў па ёй; можа нажыў ворагаў сабе і сваёй думцы ці дзеля гэтай сьвятой думкі улез у даўгі; можа разважаў, што у Вільні лягчэй будзе працаваць, маючы блізка і знаёмых багатыроў і асьвечоных спагадаючых людзей, і матэр'ялы, а можа хацеў залажыць друкарню не за кардонам, а іменна у родным сваём гасударстві на карысць яго.

У прадмові да кнігі Юдыфі, становючы мужом отчыны Юдыфь за прыклад, ён гаворыць, каб яны

всякаго тружанія и скарбов для посполитого добраго и для отчыны своея не лютовали.

Так, у дому почцивого мужа Якуба Бабича, найстаршаго бурмистра славнаго и великаго места Виленского залажыў Скарына друкарню, гдзе праца яго развівалась далей.

У Вільні ён выдаў: Апостол і Малую падарожную кніжыцу.

Тады у беларускіх гарадох жылі не жыды, як цяпера-цька, а нашскіе беларускіе мешчане (жыхары места-горада), тарговые людзі, купцы, якіе апроч унутрэнняго гандлю, мелі вялікі і бойкі торг з суседнімі гасударствамі: Маскоўскім царствам, Польшчай, немцамі і інш., а едучы часам дужа далёка у чужыну, вязьлі с сабою падарожны антымінс, каб там атпраўляць набажэнствы і розные трэбы. Але да часоў Скарыны яны ня мелі друкаваных сьвятых кніжок, нават малітваслоўаў, а рукапісные былі рэдкі, у царкоўна-славянскай мові і даступны толькі хіба самым багатыром.

Доктар Скарына, уважаючы на тое, выдаў для мірскіх людзей Малую подорожную книжицу, куды зьмесьціў:

1] Псалтыр зупольную;
2] часословец;
3] акафісты;
4] каноны;
5] Шостодновец краткі, сьвятцы і пасхалію на многія леты.

Але, кажуць, німа прарока на сваёй Бацькаўшчыні,—так людзі, што жылі побоч са Скарыной, мабыць, мало лічыліся з яго працаю, і доктара усё больш захаплівало ўласнае жыцьцё, будзёншчына, а потым пачаліся, відаць, розные непрыемнасьці у яго жыцьці—доля усіх вялікіх людзей асабліва.

З актаў і інш. ведама аб віленскім жыцьці Скарыны, што поміж 1525—29 г. г. ён ажаніўся на удове Юрыя Одверніка, Маргарыці.

У 1529 г. ён мае цяжбу з жонкінай радней за дом, каторы і высудзіў сабе.

Валачоба судовая так яму апрыкрыла, што ён жаліўся на судзьдзяў і непарадкі каралю.

А ў 1532 г. вышла нейкая [ужо позная для справы] каралеўская грамата аб канфіскацыі маетнасьці доктара Скорыны і выпаўненьню ім розных староніх абавязкаў.

У 1530 г. вялікі пажар спаліў Вільню.

У 1533 г. ахапіла яе маравое паветра.

У 1535 г. упамінаецца доктар Скарына у судовай справе Івана Скарыны.

Дык во, розные непрыемнасьці, жыцьцёвые незадачы, дробязь, спыніла культурную працу і мабыць дакапала вялі-

*) На пражскіх выданьнях Скарыны врызіска: а то ся стал вакладом Богдана Онькова с-на (сына) радці (судзьдзі) места Віленского.

# СЫМОН МУЗЫКА.

## Казка жыцьця.

### Часць I.

I.

—Ото-ж хлопец урадзіўся!
І ў каго удаўся ён?..
Чаго, дурэнь, ўтарапіўся?!..
Лепей здох бы ты, Сымон!—
Хоць бы сэрца ні ад'ядаў,
Ні мазоліў бы вачэй...
Ні дзіця, а нейка здрада,
Ні падобны да людзей!—
Ні адзін раз чуў папрокі
Ад бацькоў сваіх хлапчук.
А за што? за што нарокі?
З-за чаго той злосны гук?
«Мусіць я дапраўды ліха»
Сам сабе гадаў Сымон,
Сам сабе сьмяяўся ціха
І сьпеваў, званіў, як звон,—
Бы той звон, што на званіцы
У ціхай жаласьці гучаў
І далёка, з-за крыніцы
Плыў па ветры, заміраў.
Гаманіў Сымон с сабою,
Песьні розныя складаў,
Кучэравай галавою
Варушыў ён і ківаў.
На сьмех хлопца падымаюць:
—«От, дурубала, доўбня»!
Бьюць Сымонку і штоўхаюць,
Бы ні хлопец, а шчэня.
А той нават ні заплачэ,
Толькі голаву прыгне,
Як яго рука ледача
Чыя-небудзь штурхане.

Але й праўда: ні падобны
Быў Сымонка да другіх.
Гэта быў хлапчук асобны:
У вочках круглянькіх, жывых
Заўсягды дума бліскала;
Утаропіцца—глядзіць,
На губах сьмяшок бывала
Заблукае, задрыжыць.
Пазірае—замірае
Мэрам весь аддасца ён
Ды знячэўку запытае:
—«Чаго, мама, стогне звон»?
Звон ў Сымонкі многа значыў,
Звон надтрэснуты, стары,
Што ў іх царкві з даўных часаў
Бомкаў жаласна ў гары.
І як толькі ў звон зазвонюць,
Як застогне у вышы,—
Адгукнуцца, загамонюць
Стрункі ўсе ў яго душы.
Сэрцэ ў хлопца страсянецца,
Сам увесь ён задрыжыць.
І душа яго, здаецца,
У сьлед за звонам паляціць,—
Паляціць ў старонку тую,
Дзе ён сумна заміраў.
Так звон душу маладую
Забіраў і калыхаў.
Ды ніхто ні знаў тых струнаў,
Патайных ніцей душы,
Што шчэпляюць гук пярунаў
З немым голасам цішы.
Хлопчык бедны ўсіх баяўся:
Кепскі брат, ні любы сын;
Заўжды ён, бедак, трымаўся
Ад ўсіх збоку і адзін.
Палюбіў ён адзіноту,—
Бо у гурці кепска жыць:
А адзін ён мог ў ахвоту,
Пець, сьмяяцца, гаманіць.

У летку жыў Сымон раздольна:
Пойдзе с хаты ў поле, ў луг,—
Цёпла ўсюды і прывольна,—
Грае сэрцэ, грае дух.
Сядзе ён на камень ў збожжы,
Ні схіснецца і маўчыць,
Ловіць сэрцэм сьпеў прыгожы,
Як жытцо загаманіць,
Як зазвонюць і заграюць
Мушкі, конікі, жучкі,
І галоўкай заківаюць,
Засьмяюцца васількі.
У сэрцы сьпеў той адклікаўся
І так добрынька было,
Што Сымонка сам смяяўся,—
Усё сьмялялась ў ім, цьвяло.
Заміраў тагды хлапчынка,
І здавалася яму,
Што ён знае, як травінка
Сваю думае думу,
Што гаворыць житні колас,
І аб чым шуміць ячмень,
І чаго сьпевае ў голас
Мушка, конік, авадзень.
Млеў і таяў ўвесь Сымонка,
Як у восень жураўлі
Сумны крык ранялі звонка
І хаваліся ў далі
Ды як потым прападалі
С крыкам жаласным яны,
Як бы з плачам пакідалі
Родны край свой да вясны.
Хлопчык доўга, нірухомы,
Усё стаяў і ўсё глядзеў
У край далёкі, нівядомы,
Дзе той вырай паляцеў.
Так і жыў ён, гадаваўся,
Як пры сьцежцы той гарох,
Сам с сабою забаўляўся,
Бегаў, рэзьвіўся ў палёх

І размову вёў з жытамі,
З матылёчкамі гуляў;
Так і жыў ён дні за днямі,
Так сабе ён разважаў.

II

Часы йшлі, і дні міналісь,
Рос Сымонка дзень ад дня,
А з гадочкамі менялісь
Дзетак забаўкі, гульня.
І Сымон меў сваё дзела:
Стаў авечкі ён ганяць,
Хоць аб волі сэрцэ млела,
Хоць хацелась пагуляць.
У полі часта ён стыкаўся
З дзедам Грышкам с-пад карчмы,
Што ўсім гуртам ён наймаўся
Пасьвіць стадка да зімы.
Сваякоў дзед ўсіх адрокся,
А мо' ён іх і ні знаў;
Хто быў, скуль ён прывалокся,
Дзед пра тое ні казаў;
А калі яго пыталі,
Дзед рукой адно махне.
Дзед быў ціхі—й ні чапалі,—
Так і жыў на чужыне.
Дзед з Сымона ні сьмяяўся
І ня кпіў, ня ўшчуваў.
Хлопчык з дзедам зсябраваўся,
Думкі дзеду паверау.
Сядуць, часам, ў дзень пад грушу
І гаворку распачнуць,
Распытаць пра сёе, тое,
Што займала яго вум,
Бо Сымон ні меў спакою
Ад сваіх трывожных дум.
—«Дзедка! чуеш,—во: сьпевае!
Ці ж ня чуеш, дзедка, вунь»!—
—«Гэта здань твая такая:
Адхрысьціся, хлопчэ, плюнь»!—
—«Як-та здань! А ты паслухай»!—

